I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

**Жоўтая газетка на роднай мове** Кастрычнік 2013

**Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну**

ГЛЯДЗІ, ГЛЯДЗІ

БЕЛАРУС РАЗМАЎЛЯЕ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

стар. 4

## Адзіны ў Беларусі беларускамоўны стадыён

**«Справаводства па-беларуску!» прапанавала органам улады зрабіць вулічныя шыльды на дзвюх дзяржаўных мовах**

стар. 2

**Забіў малатком ды іншымі сродкамі, а потым прыходзіў штодня і краў рэчы: суд у Гомелі**

стар. 8

**Вы не пайшлі на «Дажынкі»? Тады яны ідуць да вас!**

стар. 7

# Кожны трэці зніклы без вестак у Гомельскай вобласці выехаў на заробкі ў РФ

***Штогод у Гомельскай вобласці знікае прыкладна 200 чалавек , траціна з якіх выехалі на заробкі ў РФ. Пра гэта паведаміў журналістам старшы памочнік пракурора Гомельскай вобласці па наглядзе за апаратыўна – вышуковай дзейнасцю Вячаслаў Сталовіч . 22 кастрычніка ў Гомелі прайшла калегія пракуратуры вобласці, на якой абмяркоўвалася і праблема знікнення грамадзян.***

Па словах Сталовіча, на 1 кастрычніка са 119 зніклых 44 выехалі на заробкі ў Расію

"Як правіла, да новага года амаль усе гэтыя зніклыя , якія з'ехалі ў Расію, знаходзяцца. Да новага года канчаюцца сезонныя заробкі , і яны самастойна вяртаюцца дадому. Да гэтага вестак пра сябе не падаюць , так як часта пазбаўляюцца на заробках сродкаў сувязі. Рэдка, але здараецца і такое, што грамадзяне на тэрыторыі Расіі заводзяць новыя сем'і і не жадаюць вяртацца дадому", – растлумачыў Сталовіч .

Паводле яго слоў, актуальнай застаецца і праблема пошуку састарэлых – грамадзян, якія дасягнулі 70 гадоў. Састарэлыя сыходзяць у лес і з-за ўзросту, захворванняў губляюць арыентацыю, самастойна трапіць дадому не могуць. З пачатку 2013 паступіла 44 заявы аб згубе састарэлых, і толькі 10 з іх былі знойдзеныя.

Асобная праблема – пошукі непаўналетніх. Пераважная большасць зніклых падлеткаў знаходзяцца ў бліжэйшыя суткі і нават гадзіны пасля паступлення ў міліцыю заявы ад сваякоў.

"Добраахвотны сыход з дому дзяцей кажа аб няшчаснай абстаноўцы ў сям'і, п'янках, канфліктах . Гэта і падсоўвае дзяцей на тое, каб пакінуць дом і сысці да сяброў, знаёмых" , – дадаў старэйшы памочнік пракурора .




Ён удакладніў, што тэрміна па вышуку няма – гэта значыць чалавек шукаюць да ўстанаўлення яго месцазнаходжання. Некаторыя грамадзяне лічацца ў вышуку з 1995 года.

*Алена Германовіч, БелаПАН.*

Жылі ў бацькі тры сыны.
А свае кватэры ў Гомелі здавалі.

# «Справаводства па-беларуску!» прапанавала органам улады зрабіць вулічныя шыльды на дзвюх дзяржаўных мовах

***Грамадзянская ініцыятыва «Справаводства па-беларуску!» сумесна з грамадзянскай ініцыятывай «Гомельскі дэмакратычны форум» і маладзёжным клубам «Цывілізацыя» правялі даследаванне таго, як прадстаўлена беларуская мова на вулічных шыльдах у Гомелі і вобласці. Агляд шыльдаў на гомельскіх вуліцах паказаў, што шыльды па-руску складаюць прыкладна 80-85%. Па-беларуску выкананы ў асноўным тыя шыльды, што былі зроблены яшчэ ў БССР, альбо зроблены ў наш час, але не цэнтралізавана, а па ініцыятыве ўласнікаў дома альбо памяшканняў.***

«Абсалютна не назіраецца адзінага стандарту выканання вулічных шыльдаў, да таго ж яны ў большасці выпадкаў дрэнна заўважныя, што дадае нязручнасці гараджанам пры жаданні адшукаць патрэбны дом ці вуліцу. Між тым, пакуль застаецца фактам тое, што ў Беларусі дзве дзяржаўныя мовы. Падобная сітуацыя і ў Фінляндыі, дзе дзяржаўнымі мовамі з'яўляюцца фінская і шведская. Пры тым, што шведаў у Фінляндыі толькі 4%, пытанне з мовай вуліц па ўсёй краіне вырашана такім чынам, што шыльды выраблюцца на двух дзяржаўных мовах адначасова»,– адзначыў аўтар ідэі грамадзянскай ініцыятывы «Справаводства па-беларуску!» Ігар Случак.

Актывістамі былі зроблены адпаведныя запыты ў райвыканкамы вобласці, Гомельскі гарвыканкам, Гомельскі аблвыканкам, а таксама адміністрацыю Савецкага раёна Гомеля.

Па выніках разгляду пазначаных зваротаў былі атрыманы адказы рознага характару. Адказы з Акцябрскага, Калінкавіцкага і Жлобінскага райвыканкамаў былі збольшага негатыўнымі, са спасылкамі на фінансавую немэтазгоднасць і заканадаўчую неўрэгуляванасць па дадзенаму пытанню.

З Мазырскага, Лоеўскага, Петрыкаўскага райвыканкамаў рэакцыя была з большага пазітыўнай і было паведамлена, што пытанне прынята да ўвагі. Хойніцкі, Жыткавіцкі, Рагачоўскі райвыканкамы паведамілі, што вулічныя шыльды адразу на двух дзяржаўных мовах будуць вырабляцца пры наяўнасці магчымасцяў і фінансавых сродкаў.

Кармянскі райвыканкам паведаміў, што згодзен з тым, што вулічныя шыльды павінны вырабляцца на двух дзяржаўных мовах. Праца па замене вулічных шыльдаў будзе праведзена пры правядзенні рамонтных работ і фінансавых магчымасцях.




Светлагорскі райвыканкам паведаміў, што прапанова аб выкананні вулічных шыльдаў на двух дзяржаўных мовах заслугоўвае ўвагі. Для абмеркавання механізмаў прававой рэалізацыі прапановы яна была перададзена дэпутату Палаты прадстаўнікоў па Светлагорскай выбарчай акрузе №46, члену пастаяннай камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту Галіне Філіповіч.

Нараўлянскі райвыканкам па пытанню вулічных шыльдаў даў такі адказ: раённы Савет дэпутатаў стварыў па дадзенаму пытанню адпаведны нарматыўна-прававы акт – рашэнне аб найменні вулічна-дарожнай сеткі ў Нароўлі на беларускай і рускай мовах. Дадзенае рашэнне зараз праходзіць неабходныя юрыдычныя працэдуры.

Гомельскі аблвыканкам па пытанню дублявання вулічных указальнікаў па-беларуску і па-руску пазітыўна аднёсся да прапановы. У адказе пазначана, што парадак выкарыстання дзяржаўных моў непасрэдна пры афармленні шыльдаў з назвамі вуліц законам «Аб мовах» не вызначаны.

«Зыходзячы з вышэй пазначанага, можна канстатаваць, што мясцовыя ўлады гомельскага рэгіёну ў цэлым пазітыўна ставяцца да пашырэння выкарыстання беларускай мовы на вулічных шыльдах. Але гэта пытанне не дастаткова нарматыўна ўрэгулявана, што дае падставы тармазіць гэты працэс», - падводзіць рысу Ігар Случак.

Акрамя іншага, у гомельскім мікрараёне «Давыдаўка» па прапанове ініцыятывы «Справаводства па-беларуску!», падтрыманай ініцыятывай «Гомельскі дэмакратычны форум» і маладзёжным клубам «Цывілізацыя», на 30-35% дзвярах пад'ездаў былі размешчаны ўказальнікі з назвай вуліц па-беларуску.

*spring96.org*

ГумНо СПАРТЫЎНАЕ

# Адзіны ў Беларусі беларускамоўны стадыён

***У Гомелі футбольныя матчы праводзяцца на беларускай мове. Пакуль што – толькі на адным стадыёне – “Цэнтральным”. Беларускамоўны дыктар гомельскага стадыёна “Цэнтральны” Юры Крышнеў падзяліўся сваім меркаваннем пра мову і спо**..*

*Юлія Сівец:*

- Для Вас праца дыктарам – гэта хобі ці нешта большае?

*Юры Крышнеў:*

- Калі падыходзіць так суха юрыдычна, то трэба было б сказаць так: паколькі адпаведнага запісу ў маёй працоўнай кніжцы няма, значыць гэта хобі. Але больш дасканала магу сказаць, што футбол – гэта, безумоўна, маё жаданне, мая стыхія з самага, напэўна, маленства. Узгадваючвы дзяцінства, прыходжу да высновы, што футбол успрымаўся намі, як для рыбы вада, як біялагічнае нейкае асяроддзе існавання. У футбол мы гралі вольным часам і ў фармаце 20х20 на вялікае поле і ў фармаце 1х1 без брамніка. І ў дождж, і ў снег. І нават гулялі амаль ўночы, я паматаю, калі гарэў адзін той ліхтар.



*Карэспандэнт:*

- То бок можна сказаць, што здзейснілася вашая дзіцячая мара?

*Юры Крышнеў:*

- Менавіта дыктарам я сябе ў той час, канешне, не бачыў. Я бачыў сябе кімсьці менавіта на арбіце гомельскага футбола. Я хацеў быць такім самым, як Фралоў, як Панцялееў, як Абабурка, як Кучук. Вось тым самым кумірам гомельскіх заўзятараў. Потым я зразумеў, што ўсё ж такі мая прафесія асноўная не будзе звязаная з тым, што я буду радаваць заўзятараў забітымі мячамі і эфектнымі падкатамі. Але нікуды гэта - маё жаданне - не знікла. І ў гэтым рэчышчы я, можна так сказаць, нечакана зноўку знайшоў сябе ў футболе.

*Карэспандэнт*:

- Як вы пачалі працаваць на матчах па-беларуску?

*Юры Крышнеў:*

- З прапановай агучваць гульні па-беларуску выступілі самі заўзятары. Дырэктар клуба Яўген Пабалавец, праанлізаваўшы становішча, зрабіў наступнае рэзюмэ: калі знойдзецца беларускамоўны дыктар, тады і будзем думаць. На старонках форумаў, сацыяльных сетак закіпелі такія спрэчкі: патрэбны ці не патрэбны пераважна рускамоўнаму на сёння Гомелю беларускамоўны дыктар. У рэшце рэшт, даволі нечакана, стала відавочна, што - прыкладна з суадносінамі 70 на 30 працэнтаў - заўзятары клуба ўхваляюць менавіта беларускую агучку гульняў. Стала зразумела, што пытанне рэалізацыі вось гэтай, скажам так, народнай волі цалкам знаходзіцца ў рэчышчы наяўнасці канкрэтнай кандыдатуры. Пачакаўчы з тыдзень, я набраў тэлефон клуба. Паспрабавалі. Спадабалася. Вось цяпер працуем.

*Карэпандэнт:*

- А як ставіцца заўзятарская супольнасць да таго, што Вы вядзеце матчы футбольныя па-беларуску?

*Юры Крышнеў:*

- Для заўзятараў, якія ўвесь матч праводзяць стоячы з колерамі клуба, гэта не такая ўжо сенсацыя, не такая ўжо навіна. Таму што яны даўно і ўстойліва аддаюць належнае менавіта беларускамоўным банерам, беларускамоўным “зарадам”

# Адзіны ў Беларусі беларускамоўны стадыён. Працяг

(па-старому “крычалкам”). Таму нельга казаць, што для іх гэта было нешта зусім штучнае. Стаўленне пераважна станоўчае. Але, калі б не атрымоўвалася нешта менавіта ў сэнсе суправаджэння футбольных момантаў, калі б гэта было для мяне нейкае чужое, штучнае, то ніякага б узаемадзеяння з трыбунамі не атрымалася б.

Яшчэ трэба дадаць, што мы старанна вытрымліваем і тое, што можна гучна назваць “медыяканцэпцыяй” нашага “Цэнтральнага”. Абавязкова ў нас ёсць трэк-ліст, які мы ўважліва прапрацоўваем, імкнемся, каб ён быў эксклюзіўным на кожную гульню. Абіраем для музычнага суправаджэння найбольш адметную сучасную і рэтра-музыку пераважна рок-, фолк- і этнанакірункаў, абавязкова і нашыя беларускамоўныя гурты і выканаўцаў, якіх маецца дастатковая колькасць. У мінулым годзе напярэдадні дзвюх каляндарных гульняў ФК “Гомель” ушанавалі адмысловымі медыясэтамі (музыка сінхронна з відэа на табло) 120-годдзі нашых літаратурных класікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, а ўжо ў гэтым годзе – сумеснымі намаганнямі з фотакарэспандэнтам клуба Лявонам Воўкам зладзілі медыясэт да 603-й гадавіны Грунвальдскай бітвы. Больш за ўсё мне было прыемна, калі потым на форуме чытаў водгукі, што гучанне “Мой родны кут, як ты мне мілы” на фоне Коласаўскіх выяваў на табло прабірала душу літаральна наскрозь і кранала самае сэрца…

*Карэспандэнт:*

- Існуе меркаванне, што ў беларускай мове няма адпаведнікаў футбольнай тэрміналогіі. Як Вы лічыце, ці дастаткова распрацаваная спартовая лексіка?




*Юры Крышнеў:*

- Сённяшні перыяд я б ахарактарызаваў прыкладна як працяг 1970-х гг. У той час беларускую мову не віталі і ва ўсіх магчымых выпадках аддавалі перавагу рускай мове. Перыяд росквіту беларускай мовы на радыё і тэлебачанні – гэта 1980-1990-я гг., калі наш медыйны сектар узначальваў агульнавядомы беларускі паэт Генадзь Бураўкін. У той час з’явіўся шэраг выдатных спартовых каментатараў, якія працавалі па-беларуску. Тут у першую чаргу хацеў бы вылучыць Уладзіміра Навіцкага. Па рэпартажах Уладзіміра Навіцкага я літаральна вывучаў беларускую мову. Такія выразы, як “дасціпны пас у адзін дотык”, “моцна, але не дакладна”, “штучнае становішча па-за гульнёй” і шмат іншага можна ўзгадаць. Шкада, што цяпер Уладзімір Мікалаевіч з нейкіх прычын амаль цалкам адмовіўся ад беларускай мовы і працуе фактычна толькі для рускамоўных аматараў спорту. Але, разам з тым, можна казаць, што патрыярхам беларускамоўнага спартыўнага каментару з’яўляецца менавіта ён.

Так што, на пытанне, добра ці дрэнна распрацаваная лексіка адпаведнай галіны, можна адказаць такім чынам: хто не жадае карыстацца беларускай мовай, той шукае прычыну не рабіць гэта. Хто жадае, той робіць і шукае магчымасці гэта рабіць.

Юры Крышнеў – не толькі дыктар гомельскага стадыёна “Цэнтральны”. Ён яшчэ кандыдат тэхнічных навук, дацэнт і загадчык кафедры “Прамысловая электроніка” ў Гомельскім дзяржаўным тэхнічным універсітэце імя Паўла Сухога. Дарэчы, лекцыі для студэнтаў спецыяльнасці “Прамысловая электроніка” Юры Крышнеў чытае таксама па-беларуску.

*Юлія Сівец, Беларускае Радыё Рацыя, Гомель*

# Сустракайце: нацыянальна-свядомыя фанаты

***У Беларусі вырасла новае пакаленне фанатаў, што гадаваліся на нацыянальнай культуры, мяркуе эксперт.***

У Гомлі фанаты БАТЭ развіталіся з былым галоўным трэнерам Віктарам Ганчарэнкам (які адправіўся працаваць у расейскую «Кубань» з Краснадару) беларускамоўным банерам: «Твае заслугі – наш гонар!» Гэта не адзінкавая акцыя. У фанацкім асяроддзі беларуская мова становіцца ўсе больш папулярнаю.

Ты я ж фанаты БАТЭ ў траўні 2012 года прэзентавалі банер: «Назаўжды ў нашых сэрцах да канца нашых дзён – БАТЭ (Барысаў)». Ёсць беларускамоўныя банеры ў фанатаў берасцейскага «Дынама», «Гомля», салігорскага «Шахцёра», магілёўскага «Дняпра», жодзінскага «Тарпеда», гарадзенскага «Нёмну», менскага «Дынама» і нават клубу трэцяга дывізіёну – менскага «Партызана».

Усё часцей можна пачуць беларускую мову і ў крычалках фанатаў. Гэтак, фанаты берасцейскага «Дынама» падчас гульняў спяваюць прыпеў энэрэмаўскай песні «Тры чарапахі». А першымі беларускую мову выкарыстоўвалі фанаты ФК «Ліда» ў канцы 90-х. Потым мода на беларускае сышла, але з 2012 года актыўна вяртаецца ў гэтае асяроддзе.

«Паводле маіх назіранняў, шырока беларуская мова прыйшла ў беларускі каляфутбольны асяродак прыкладна год-два таму, змяніўшы ў большасці выпадкаў ідэалогію «я расеец, я славянін» на ідэалогію «я беларус», – кажа вялікі прыхільнік футболу і хакею, аўтар ідэі грамадзянскай ініцыятывы «Справаводства па-беларуску!» Ігар Случак. – Тым не менш, беларуская мова пачала выкарыстоўвацца фанатамі ў стыкерах, банерах, атрыбутыцы і г. д.».

«Футбольныя фанаты – гэта заўсёды былі, ёсць і будуць закрытыя асяродкі з добраю самаарганізацыяй ды ўласнымі мэтамі, як бы на іх не ўплывалі вонкавыя акалічнасці, пагрозы ці іншыя чыннікі, у тым ліку і культурныя. Хоць пра нейкія ідэалогіі чалавеку, што знаёмы з фанацкім жыццём павярхоўна, казаць складана і, думаю, не вельмі правільна, – кажа Ігар. – Але што датычыць мовы, вырасла новае пакаленне фанатаў, што гадавалася і гадавала сябе на нацыянальнай культуры, былі за мяжою, не толькі ў паездках па танныя тавары, але і для душы ды сэрца, і бачылі, што ўсе моцныя і найлепшыя фанацкія рухі грунтуюцца на моцнай нацыянальнай культуры і павазе да сваёй гісторыі».


Квітнеюць людзі нашай краіны

Паводле Ігара Случака, культура фанатаў – гэта вялікі патэнцыял для развіцця беларускай нацыянальнай культуры, мовы, бо няма лепшай рэкламы мовы, чым беларускамоўныя банеры на стадыёнах, беларускамоўныя стыкеры на вуліцах, беларускамоўныя дыктары і гульцы з прозвішчамі на форме па-беларуску. Гэта бачыць і пазітыўна ўспрымае шмат людзей, тым самым паступова схіляючыся да беларускай нацыянальнай мовы і культуры.

*Алесь Ляўчук*

# Матч 13-гадовых хакеістаў у Гомелі скончыўся масавай бойкай

***У рамках Першынства Беларусі сярод юнакоў 2000 г.н. каманда СДЮШАР-5 Гомеля сустракалася на сваім лёдзе з хлопцамі з Магілёва.***

Бойка адбылася ў апошнім перыядзе, — распавёў tut.by другі трэнер гомельскай каманды Васіль Белы. — Пачалося паміж двума спартоўцамі з гульнявых момантаў: адзін зачапіў другога, не саступілі і завязалася бойка.

Спачатку адзін на адзін, потым з лаўкі магілёўцаў хлопцы выбеглі на лёд ... Нашы, вядома, не маглі на гэта проста глядзець.

У выніку ў рукапашнай сышліся па пяць хакеістаў з абодвух бакоў. Сутычка працягвалася каля хвіліны — столькі ж дожыцца відэаролік.

Разбараняць юных спартоўцаў кінуліся суддзі і трэнеры абедзвюх каманд. Абышлося, на шчасце, без цялесных пашкоджанняў.

Гульня скончылася з лікам 6:1 на карысць Гомеля.

У адпаведнасці з хакейнымі правіламі, на удзельнікаў «лядовага пабоішча» будуць накладзеныя штрафы.

Па словах Васіля Белага, ніякіх прэтэнзій адзін да аднаго бакі не маюць: «Усё нармальна, усё разабраліся, усе здаровыя, усё добра. Падобнае час ад часу здараецца. Гэта хакей».

*Руслан Праляскоўскі, tut.by*

3 словы, якія найцяжэй вымавіць:
1 Сінхрафазатрон.
2 Феналфталэін.
3 Прабач.

# Вы не пайшлі на «Дажынкі»? Тады яны ідуць да вас!

***SOS! Мы замярзаем. Мы замярзаем каторы дзень! З-за «Дажынак», уявіце сабе. Дзе тыя «Дажынкі» былі — за 100 кіламетраў ад нас, у Жлобіне, а мерзнем зараз мы. Таму што. Таму што было так.***

У нашым мілым доме год ідзе капітальны рамонт (тэрміны не парушаны, не, ён будзе працягвацца да 30.12.2013). Рабочыя сумленна працавалі на нашым аб'екце, пакуль у Жлобіне не здарыліся раптам «Дажынкі». І раптам, у жніўні, нашы ўсе рабочыя зніклі з нашага аб'екту. Якраз яны павінны былі мяняць нам радыятары.

Мы пайшлі да начальства ў структуру ЖЭК-КЖРЭУП-КЖЭУ-ЖРЭТ. З пытаннем: «Людзі добрыя! Холад жа сабачы, га? Калі нам радыятары будуць мяняць? Дзе наогул рабацягі?». Кіраўніцтва нам паведаміла (па сакрэту), што «усе сілы, рабочыя і грашовыя, кінуты на «Дажынкі», пацярпіце, «Дажынкі» скончацца — і ў вас працягнецца капітальны рамонт».

Тут цярпіце-не цярпіце — нічога не зробіш. 1, 2, 3 кастрычніка па гарадскіх кватэрах пайшло гуляць цяпло. Толькі ў нас трубы-радыятары маўчалі, не булькалі. Мы насцярожана прыслухоўваліся — можа, хоць нешта зашуміць у радыятары? Не. Зацятае маўчанне. «Зашумела! Зашумела нешта ў радыятары!», — радасна закрычаў малы з суседняга пакою, дзе нёс варту каля батарэі. Мы пабеглі і прыклеілі чатыры пары вушэй да той трубы. Не. Гэта не вада. Не цёплая вада, і нават не халодная. Гэта сусед зверху нешта муціць. Напэўна, таксама сядзіць усёй сям'ёй ля радыятараў, прыклаўшы вушы, і, шапочучы тымі вушамі, чакае добрую вестку.

Тэлефанаванні ў КЖРЭУП-ЖЭУ-ЖРЭТ-ЖКХ не давалі плёну. Там нічога не ведалі. Напэўна, напярэдадні ўсіх камунальных начальнікаў звольнілі з працы, а на іх месцы пасадзілі іншапланецян, якія не ў курсе, што такое ацяпленне — у іх там на Тральфамадоры няма зімы. Напэўна, па той жа прычыне адключылі нам і гарачую ваду. Чаму адключылі, хто адключыў — у КЖРЭП-ЖЭС-КЖУП-КРЭУТ ніхто не ведаў. Тральфамадорцы, што ад іх чакаць! У іх там, на іх Радзіме, не вады, не цяпла, ні холаду няма.

Нам сказалі ўчора рабацягі так. У жніўні, яшчэ пакуль не было «Дажынак», рабочыя вырашылі ў нашым падвале змяніць нейкую «сістэму» ацяплення — старую на новую, сучасную. Для гэтай мэты




яны старую «сістэму» выразалі і выкінулі. А новую не паставілі, таму што пачаліся раптам «Дажынкі». І таксама раптам пачаліся халады, і раптам ва ўсім горадзе ўключылі ацяпленне, а нам не маглі ўключыць, таму што няма ў нашым доме «сістэмы». Што ж будзе зараз?

Не ведаю, як патлумачыла бы нам кіраўніцтва ЖРЭУП-КЖРЭТ-ЖЭУ (бо там пакуль не ў курсе, тральфамадорцы захапілі ЖЭС), але рабацягі патлумачылі так: трэба узяць старую «сістэму», якую яны выразалі і выкінулі, і прыварыць назад. Бо новую прыладжваць няма часу — людзі ж мерзнуць! Ну а потым ужо, як пачнуцца белыя мухі — тады можна будзе зліць ваду з «сістэмы», ненадоўга, можа, на тыдзень які, на два, і паставіць нам новую сучасную «сістэму».

Але сёння рабацягі не могуць і старую прыварыць. Таму што яны занятыя іншымі справамі. А заўтра субота. Шабат. Працаваць нельга. Трапіш у пекла, дзе будуць цябе чэрці грэць дзень і ноч.

А мы пацерпім. Я ведаю, чаму так здарылася. Ты можаш вывесці сябе з сістэмы, але гэта не значыць, што сістэма забудзе на цябе. Ты можаш не ўдзельнічаць у «Дажынках», але «Дажынкі» самі прыйдуць у твой дом.

Калі ўсе жыхары Гомельскай вобласці ў адзіным парыве ўдзельнічалі ў «Дажынках» (малацілі, касілі, вазілі збожжа, іншыя ўдзельнічалі там у суботніках — фарбавалі, будавалі, кіравалі, іншыя — прадавалі, спявалі, іншыя — пісалі, фатаграфавалі, нешта набывалі) наш дом (пенсіянеры і мы) самаўхіліўся ад Галоўнага свята краіны. Сядзелі сабе па хатах, нават тэлевізар не ўключалі, не радаваліся разам з народам. Ах вы!

Карацей, як прыйшоў наш дом на шлюбны баль не ў шлюбнай вопратцы, то выкінулі нас вонкі, і там быў плач і скрыгат зубоў. Калі раней я сушыла зубы, даведаўшыся, што знаёмыя жыхары Гомеля (са ўсіх дзяржаўных структур) паехалі на «Дажынкі» працаваць на суботніках, ці прадаваць нешта, ці спяваць і танцаваць, то зараз у мяне зуб на зуб не трапляе.

Вось так мая злараднасць была пакараная.

PS. У нас усе гатова! Толькі што сказалі рабацягі. Маўляў, старую «сі-

Запомніце дзве кароткія фразы, якія дапамогуць вам адчыніць любыя дзверы ў Гомелі: «Ад сябе» і «Да сябе»

## Вы не пайшлі на «Дажынкі»? Тады яны ідуць да вас! Працяг

стэму» прыварылі назад. Але нам, кажуць рабацягі, ЖЭУ (КЖРЭТ-ЖСПК-КЖУП) загадаў, каб вам не падключалі ацяпленне.

У КЖРЭУП (ЖЭС-ЖЭК-КЖРУП) нам адказалі так: «Мы не ведаем, чаму няма ацяплення, мы да вашага дому накіравалі сваіх сантэхнікаў, а вашы сантэхнікі прагналі нашых сантэхнікаў, сказалі, што самі запусцяць ацяпленне. А вашы сантэхнікі самі не маюць права запускаць ацяпленне». А «нашы» сантэхнікі сказалі нам, што «брэшуць яны! Яны нам сказалі да 15-га не ўключаць вам ніякага ацяплення».

Паказальна закруціўшы галаву хусткай, апрануўшы на сябе дзве зімовыя курткі, я выйшла з пад'езда, стала перад будаўнікамі як маўклівая статуя і сказала: «Я замерзла». А яны паглядзелі здзіўлена і прапанавалі: «Ну і што! Ідзі да нас у вагончык пагрэйся!». Далей працягваю пісаць гэты тэкст з будаўнічага вагончыка, прыціснуўшыся бокам да буржуйкі. Але ў чатыры гадзіны ў будаўнікоў скончыцца працоўны дзень, і што я буду тады рабіць? Сяду ў цёплы цягнік і паеду ў белы свет, напрыклад, у Жлобін.

Вось так мы плацім за тое, што праігнаравалі «Дажынкі». Што не пілі, не пелі і не весяліліся. І адзіны наш ўнёсак у «Дажынкі» ўзяты з нас не па добрай нашай волі. Але што ты зробіш? Гэта галоўнае свята краіны! І яго трэба падтрымліваць, хоць чым. Заўсёды трэба нешта ахвяраваць для Радзімы. «Што ты зрабіў для Радзімы? Што, у вас пытаем, у вас, жыхары дому № 21?!» — Толькі тое, што маглі — ахвяравалі сваім ацяпленнем. І яшчэ пацерпім. У зямлянкі пойдзем! Але «Дажынкі» не пакінем без свайго ўнёску! Як і «Дажынкі» не пакінуць нас.

*football.by*

## Забіў малатком ды іншымі сродкамі, а потым прыходзіў штодня і краў рэчы: суд у Гомелі

***Прыкладна ў 20 гадзін 13 чэрвеня на Гомель абрынуўся ўраганны вецер. Больш за ўсё пацярпеў цэнтральны сквер, дзе павалена і пашкоджана каля дзесяці буйных дрэў.***

У Гомельскім абласным судзе праходзіць слуханне крымінальнай справы па двайным забойстве.

Нагадаем, у снежні 2012 года ў прыватным доме ў Гомелі былі знойдзены трупы 45-гадовага прадпрымальніка і яго старэнькай маці. Высветлілася, што яны не загінулі падчас пажару, а былі забітыя. Абвінавачваныя ў злачынстве — сын бізнесмена і знаёмы маладога чалавека.

Бізнесмен займаўся пракатам аўтамабіляў, у яго ўласнасці знаходзілася шэсць дарагіх іншамарак.

Мужчына быў у разводзе з жонкай і жыў разам з маці. А 20-гадовы беспрацоўны сын камерсанта часова жыў у Бранскай вобласці Расіі, часта наведваў Гомель. Малады чалавек быў дзіджэем і ладзіў вечарынкі, у тым ліку ў гомельскіх клубах.

Паводле інфармацыі следства, хлопец канфліктаваў з бацькам з-за таго, што той мала дапамагае яму грашыма.

Таму ён вырашыў заказаць забойства бацькі, каб атрымаць па спадчыне аўтамабілі, якія планаваў прадаць. Пра забойства за 10 тысяч даляраў ён дамовіўся са сваім беспрацоўным 20-гадовым прыяцелем.

У адну з начэй у канцы лістапада прыяцель дзіджэя пранік у дом бізнесмена, адчыніўшы дзверы ключамі яго сына. Прадпрымальнік прачнуўся і спрабаваў адбіцца ад забойцы, але пры дапамозе малатка і іншых сродкаў малады чалавек забіў мужчыну і яго маці.

Трупы схаваў у багажніку аўтамабіля, які стаяў у двары дома. Сваякоў у сям'і ў Гомелі не было, таму гібель бізнесмена і яго маці ніхто не заўважыў. На працягу некалькіх дзён выканаўца забойства заходзіў у дом да сваіх ахвяр і краў іх рэчы. Праз дзесяць дзён пасля забойства перанёс трупы назад у дом і падпаліў яго, спрабуючы інсцэніраваць пажар.







Затрыманы сын прадпрымальніка не прызнаў сваю віну падчас следства, на судовым працэсе ён таксама пакуль адмаўляе сваё дачыненне да забойства. А выканаўца злачынства і следству, і суду пацвердзіў асноўную версію.

Паводле слоў абвінавачванага ў забойстве, пасля таго як пранік у дом, ён спачатку ўдарыў бізнесмена малатком, але той не ўпаў і ўступіў у барацьбу са злачынствам.

На крыкі выйшла маці мужчыны, якая прынесла з сабой бутэльку шампанскага, як мяркуецца, каб ударыць хлопца.

Але той выхапіў бутэльку і забіў ёю спачатку бізнесмена, а потым і яго маці. Паводле слоў злачынцы, неўзабаве на месца забойства прыехаў сын мужчыны і забраў некаторыя рэчы.

Суд працягнецца 17 кастрычніка допытам абвінавачванага ў саўдзеле ў забойстве дзіджэя.

*Алена Германовіч, БелаПАН*


M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі кастрычнік 2013»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2013"

Надрукавана на папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva
***Вольга Пыхава:*** http://vk.com/volha_pyhava

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com
Наш ***сайт***: gnavinki.com

M&S MEDIA